БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

1 верасня 1994 г.
Чацвер
№ 95(13812)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК




# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ШКОЛА!

*Менавіта з такіх слоў пачаўся сённяшні дзень для многіх грамадзян нашай краіны. Сярод іх і 30 тысяч хлапчукоў і дзяўчынак Першамайскага раёна г.Мінска. Ці гатовыя школы да сустрэчы з імі, што новага, цікавага падрыхтавалі для вучняў настаўнікі? Адказаць на гэтыя пытанні мы прапанавалі намесніку загадчыка па вучэбна-выхаваўчай рабоце аддзела адукацыі Першамайскага раёна г.Мінска Святлане Аляксандраўне БОСАЙ:*

— Для кожнага настаўніка першае верасня — заўсёды вельмі шчымлівае і адказнае свята. Гэта сімвалічны пачатак нялёгкага шляху ў цудоўную краіну ведаў. Што новага на гэтым шляху? Перш за ўсё — узрастаючая ўвага да асобы вучня, фарміраванне асобы, у пэўным сэнсе, нават адраджэнне. Сёння школы максімальна імкнуцца працаваць для дзяцей, задавальняць іх патрэбнасці і інтарэсы. Раённы аддзел адукацыі праводзіць значную работу па гуманізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў школах. У аснове яе — законы аб адукацыі, аб мовах і аб правах дзіцяці, новыя канцэпцыі адукацыі і выхавання, Дзяржаўная комплексная праграма развіцця адукацыі і выхавання ў Беларусі.

У раёне працуюць 3 школы-гімназіі, 24 агульнаадукацыйныя школы, 10 маюць розныя ўхілы. У 3 школах працуюць эксперыментальныя праграмы. Вядзецца профільнае навучанне: фізіка-матэматычнае, грамадска-гуманітарнае, экалагічнае, эканамічнае. 50 працэнтаў школ раёна маюць статус беларускамоўных, працуюць 176 беларускамоўных класаў, пастулова ажыццяўляецца перавод устаноў адукацыі на нацыянальную аснову, вядзецца прапаганда беларускай мовы, як дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з пераходам на новы змест адукацыі і новыя методыка-педагагічныя тэхналогіі адбываюцца сур'ёзныя змены ў арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу, у рабоце з педагагічнымі кадрамі. 33 кабінеты камп'ютэрнай тэхнікі ў школах дапамагаюць ажыццяўляць навучанне і выхаванне на ўзроўні сучасных патрабаванняў, зроблены пэўныя крокі па ўвядзенню камп'ютэрнай тэхнікі і ў сферу кіравання адукацыяй.

Сёння жыццё запатрабавала адкрыцця 17 рэальных 10—11-х класаў у агульнаадукацыйных школах і 4 рэальных класаў у вячэрне-завочнай адукацыйнай школе № 24, якая ў перспектыве будзе шматпрофільнай або рэальнай школай.

Хочацца адзначыць, што больш цікавай стала і выхаваўчая работа. У школах з'явіліся новыя дзіцячыя аб'яднанні па інтарэсах: "Скарынічы", "Эколагі", "Міласэрнасць", "Нашчадкі", створана першая ў рэспубліцы раённая дзіцяча-юнацкая асацыяцыя "Вясёлка".

...І ўсё ж, нягледзячы на тое, што вопыт работы нашага аддзела атрымаў распаўсюджанне ў рэспубліцы, існуе нямала праблем. Напрыклад, неабходна ўзмацніць узаемасувязі паміж дзіцячым садком і школай. Многія школы раёна, асабліва мікрараёна "Уручча", перагружаны, і гэта адмоўна ўплывае на якасць навучання і выхаваўчую работу. З-за адсутнасці фінансавання матэрыяльна-тэхнічнай базы школ стрымліваецца стымуляванне і развіццё навуковай і вынаходніцкай творчасці. Вельмі балючымі пытаннямі сталі ў апошні час арганізацыя летняга адпачынку і працы дзяцей, працаўладкаванне непаўналетніх.

Нядаўна на сесіі райсавета народных дэпутатаў была разгледжана работа аддзела адукацыі па ўдасканаленню навучальна-выхаваўчага працэсу ў школах і дашкольных установах. Спадзяёмся, што ў выніку намечаных мер нашы праблемы будуць хутчэй вырашаны.

З пачаткам новага навучальнага года, з Днём ведаў віншую ўсіх чытачоў "Чырвонкі".

Запісала Вера ШЧЭЦІНА.
Фота Аляксандра ХІТРОВА.



## Кур'ер "ЧЗ"

### Размова пра зарплату яшчэ не завершана?

*Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі правяла "круглы стол" па пытаннях занятасці і аплаты працы. Удзел у ім прынялі члены ўрада, федэрацыі прафсаюзаў і аб'яднанняў наймальнікаў, прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, навукова-даследчых інстытутаў, Цэнтра занятасці, прадпрыемстваў.*

Абмеркаваны актуальныя праблемы, якія датычаць недасканаласці аплаты працы і занятасці насельніцтва. Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык пералічыў прычыны, з-за якіх мінімальная заработная плата страціла ўсялякі сэнс як эканамічная катэгорыя. Асноўныя з гэтых прычын тлумачацца, у першую чаргу, гіперінфляцыяй і зніжэннем аб'ёмаў вытворчасці. Аднак пры аднолькавым зніжэнні вытворчасці ў рэспубліках СНД у Беларусі мінімальная зарплата ў 5 разоў меншая, чым у Расіі, у 4 разы — чым у краінах Балтыі. Нават на Украіне атрымліваюць у два разы больш. Адна з эканамічных супярэчнасцей у сістэме аплаты ў рэспубліцы заключаецца ў неадпаведнасці мінімальнага бюджэту спажывання (спажывецкай карзіны) мінімальнай зарплаце, яна ў 8 разоў меншая. Федэрацыя прафсаюзаў бачыць два шляхі выхаду з эканамічнага крызісу — ісці шляхам павышэння заработнай платы або індэксаваць даходы. У асноўным усе сыходзіліся на думцы аб недасканаласці тарыфнай сістэмы аплаты працы, крытычным стане ў стварэнні новых рабочых месцаў, якім ва ўсім свеце займаецца малы і сярэдні бізнес. Менавіта яго неразвіццё ў нашай рэспубліцы нараджае беспрацоўе ў сумных маштабах. Як афіцыйнае, так і скрытае. Асаблівая ўвага ў кожным выступленні ўдзялялася сістэме падаткаабкладання, дакладней — яе недасканаласці. Дамінуючым у падаткаабкладанні, на думку спецыялістаў, павінен быць падатак на прыбытак. Найбольш яркім было выступленне віцэ-прэзідэнта Беларускага Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Юрыя Весялова. Комплексная праграма выхаду рэспублікі з крызісу, на думку спецыялістаў саюза, узяла за аснову сацыяльна-рыначную мадэль эканомікі, аднак захавала ўвесь комплекс сацыялістычных падыходаў да вырашэння эканамічных праблем. Улічваецца ўсё, акрамя інтарэсаў людзей. Аналітычная група Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў лічыць, што пры гіперінфляцыі ў 40-50 працэнтаў прывязваць заработную плату да эфектыўнасці вытворчасці — эканамічны абсурд. Заработную плату ў дадзены момант фарміруюць знешнія ўмовы, а не ўнутраныя намаганні рабочых калектываў. Удзельнікі "круглага стала" вырашылі стварыць камісію з прадстаўнікоў прысутных арганізацый, якая, зыходзячы з пастаноўкі агульных пытанняў, павінна сфарміраваць прапановы для прэзідэнта і ўрада і рэкамендаваць уключыць іх у комплексную антыкрызісную праграму.

### "Залатая" сувязь

*Як паведамілі ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі, з 1 верасня ў 2—2,5 раза павялічаны тарыфы на паслугі.*

Мінута міжгародняй тэлефоннай размовы ў межах вобласці будзе каштаваць 12 рублёў, у маштабах рэспублікі — 24 рублі. Адно слова звычайнай тэлеграмы цяпер каштуе 3 рублі, тэрміновай — 6 рублёў. Перасылка простага пісьма да 20 грамаў ацэньваецца ў 6 рублёў.

### Мемарыял болю, гонару і сораму

*Працягваецца будаўніцтва мемарыяла воінам-інтэрнацыяналістам на рачным востраве ля Траецкага прадмесця ў Мінску.*

Зараз ідзе падвод камунікацый для работы зімой, практычна завершана праектаванне азелянення вострава. Ад грамадзян і арганізацый паступілі ўжо ахвяраванні на будаўніцтва больш чым на паўмільёна рублёў (у новым вылічэнні). У трэцім квартале Міністэрства фінансаў рэспублікі павінна выдзеліць для гэтай мэты 300 мільёнаў. Адкрыць мемарыял плануецца да 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

БЕЛІНФАРМ.

### Небяспечныя дары лесу

*Здаўна палешукі атрымлівалі значнае папаўненне да свайго стала і бюджэту ў выглядзе дароў лесу. Палярна памянялася сітуацыя пасля трагедыі на ЧАЭС. Вось ужо не адзін сезон "ціхага палявання" адзначаецца значнае павышэнне ў іх дапушчальных доз утрымання радыенуклідаў.*

Да прыкладу, сёлета, паводле звестак Жыткавіцкага райцэнтра гігіены і эпідэміялогіі, з 40 узятых проб свежых чарніц непрыгоднай для ўжытку аказалася амаль палова. Асабліва неспрыяльная сітуацыя склалася ва ўгоддзях Найдзянскага, Палянскага, Ленінскага і Людзяневіцкага лясніцтваў.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

### Доўгая дарога да святынь

*З малебна ў Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску некалькі дзён таму пачалася навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святынь".*

Прадстаўнікі духавенства, вядомыя ў рэспубліцы вучоныя, дзеячы культуры, журналісты — яе ўдзельнікі. Маршрут іх — па старажытных цэнтрах беларускага духоўнага жыцця, гісторыі і культуры: Жыровічы, Слонім, Баранавічы, Навагрудак — да старажытнага Полацка. Менавіта там 4 верасня адбудзецца мітынг удзельнікаў экспедыцыі і грамадскасці рэспублікі, прысвечаны святкаванню першага Дня беларускага пісьменства і друку. А асвеціць няблізкі шлях экспедыцыі нязгасная лампадка са святым агнём ад труны гасподняй, запаленай у 1992 годзе ў Іерусаліме, якая захоўваецца ў Свята-Духавым кафедральным саборы. Затым нязгасная лампадка будзе знаходзіцца паблізу мошчаў Вялікай Ефрасінні Полацкай у жаночым манастыры ў Полацку. За тыдзень, праведзены ў дарозе, удзельнікі экспедыцыі сустрэнуцца з захавальнікамі і праваднікамі роднай культуры, абмяняюцца з імі ведамі і назіраннямі, адкажуць на пытанні мясцовых жыхароў. Яны спадзяюцца, што галоўная мэта "Дарогі да святынь"— прапаганда гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа — будзе дасягнута дзякуючы непасрэднаму ўдзелу ў экспедыцыі ўсіх жадаючых далучыцца да гэтага масавага мерапрыемства.

### Кіраўнікі і педагогі не патрэбны

*За 6 месяцаў бягучага года па дапамогу ў органы дзяржаўнай Рэспубліканскай службы занятасці насельніцтва звярнуліся 78254 чалавекі.*

З іх працаўладкавана 46009, у тым ліку 38073 беспрацоўных. Найбольшым попытам карыстаюцца рабочыя спецыялісты, асабліва будаўнічыя. Такім чынам, за чэрвень ад прадпрыемстваў і ўстаноў Беларусі ў Службу занятасці трапіла больш як 24 тысячы заявак, з якіх 20 тысяч складаюць запыты на рабочыя прафесіі. 105 заявак было пададзена на кіраўнікоў пасады, 46 — на медыцынскіх работнікаў і 8 — на педагагічных.

Святлана КУЛІКОВА.

### Злачыннасць "маладзее"

*Як паведамляе абласное ўпраўленне статыстыкі, колькасць цяжкіх злачынстваў на Віцебшчыне за паўгоддзе дасягнула 1473, што на 29 працэнтаў больш, чым за такі ж перыяд летась.*

Ажыццёўлена 75 наўмысных забойстваў, 148 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, зарэгістравана 2,2 тысячы крадзяжоў дзяржаўнай і грамадскай маёмасці. З выяўленых правапарушальнікаў кожны трэці не працаваў і не вучыўся, кожны другі — ва ўзросце да 30 гадоў.

Уладзімір МІХНО.

### Курсы валют на 31 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 2772 | 2860 | 1756 | 1810 |
| "Дукат" | 2740 | 2860 | 1730 | 1820 |
| "Прыор" | 2810 | 2870 | 1770 | 1820 |

## ПАДПІСКА-94

Для нашай газеты стала ўжо традыцыяй аказваць магчымую падтрымку самым неабароненым слаям насельніцтва. Сёлета, напрыклад, у другім квартале мы арганізавалі бясплатную падпіску для школ нашай рэспублікі. На чацвёрты квартал такая магчымасць была прадастаўлена інвалідам. Нядаўна рэдакцыя атрымала ліст-падзяку, які мы з задавальненнем змяшчаем.

*"Паважаная рэдакцыя!*

*Мінскае гарадское праўленне Беларускага таварыства інвалідаў выказвае вам шчырую падзяку за выдзяленне сродкаў на правядзенне бясплатнай падпіскі на IV кв. 1994 г. на вашу газету інвалідам г.Мінска.*

*Вы добра разумееце, у якім цяжкім стане знаходзяцца зараз інваліды нашага горада, і таму любая ўвага, аказаная ім, саграе душу".*

Нагадваем, што падпіска на "Чырвоную змену" працягваецца. Наш падпісны індэкс 63129, кошт на квартал — 1200 рублёў.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)



Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

### НАД УСЁЙ ЕЎРОПАЙ БУДЗЕ "НЕБА Ў ДЫЯМЕНТАХ"

*Міністры навакольнага асяроддзя з некалькіх еўрапейскіх краін правялі сустрэчу ў Ліхтэнштэйне.*

Яны аб'явілі аб рашэнні Германіі, Аўстрыі і Швейцарыі сумесна змагацца з вялікай колькасцю выкідаў $CO^2$, якія разбураюць азон. Да 2000 года ў рамках ААН мяркуецца распрацаваць праграму па барацьбе з забруджваннем навакольнага асяроддзя, у рамках якой знойдзе вырашэнне і праблема выкідаў $CO^2$

### ЭКСТРЭМІЗМ БЕЗ МЕЖАЎ

*Адзін з вядомых дзеячаў Ірландскай рэспубліканскай арміі (ІРА) Шын Фейн Джэры Адамс намякнуў, што ў бліжэйшы час будзе аб'яўлена аб спыненні тэрарыстычных актаў.*

Адамс падкрэсліў, што на нядаўняй сустрэчы з кіраўніцтвам ІРА ён рэкамендаваў спыніць вайну, якая працягваецца ўжо 25 гадоў. Аднак пратэстанцкія экстрэмісты заявілі, што спыненне агню будзе азначаць пачатак грамадзянскай вайны ў Паўночнай Ірландыі.

### СЕРБСКІ "ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ"

*Баснійскія сербы аб'явілі, што рэферэндум, праведзены сярод мясцовага насельніцтва, адназначна адхіліў план мірнага ўрэгулявання, распрацаваны кантактнай групай на чале з ЗША, Расіяй, Англіяй і Францыяй.*

Францыя і Германія не лічаць правядзенне рэферэндуму правамоцным. Паводле апошняга плана, сербам прапануюць 49 працэнтаў тэрыторыі, прычым амаль усе самыя вялікія гарады і землі, багатыя карыснымі выкапнямі, адыдуць да іх праціўнікаў. Практычна сербская тэрыторыя будзе складацца з трох анклаваў. Нагадаем, што на сёння сербы кантралююць 75 працэнтаў Босніі і Герцагавіны.

### СЛАВУТЫ "МЭДЗІСОН" МОГУЦЬ "ПРЫВАТЫЗАВАЦЬ"

*Карпарацыя ІТТ і яе партнёр "Кейблвіжн" збіраецца ажыццявіць грандыёзную пакупку — набыць сусветна вядомую арэну "Мэдзісон Сквер Гардэн" за велізарную цану.*

На гэтай арэне, у прыватнасці, праводзяць свае дамашнія матчы хакеісты "Нью-Йорк Рэйнджэрс", стаўшыя ў гэтым годзе ўладальнікамі Кубка Стэнлі, а таксама баскетбалісты адной з самых папулярных каманд "Нью-Йорк Найтс", прайграўшыя ў фінале НБА чэмпіёну — "Х'юстан Рокетс".

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## Бізнес-клас

### ХТО СТВАРЫЎ "ЗЛАВЕСНЫ ВОБРАЗ"?

Ні адно з сучасных перыядычных выданняў не займае негатыўнай пазіцыі адносна рыначных пераўтварэнняў і прадпрымальніцтва. Такую думку выказаў на семінары дзелавой прэсы, які адбыўся ў Мінску, дырэктар прэс-цэнтра выдавецка-паліграфічнай кампаніі "Эрыдан" Леанід Міндлін. Ён заявіў, што спецыялісты кампаніі прыйшлі да гэтага вываду пры дапамозе кантэнт-аналізу сродкаў масавай інфармацыі. Дарэчы, такім метадам карыстаюцца контрразведчыкі пры выяўленні спецыяльных ведаў з неспецыяльных крыніц.

Прэса міжвольна фарміруе негатыўную думку грамадскасці з-за пастаяннага выкарыстання журналістамі знакавай сістэмы, гэта значыць, шэрагу слоў, якія выклікаюць непрыязнасць абываценя. Напрыклад, ужыванне спалучэння "ценявая эканоміка" адразу ж падразумявае нешта адмоўнае. Хоць ценявая эканоміка існавала ў савецкі перыяд, але "злавесны вобраз" "ценявых эканамістаў" вісіць над цяперашнімі пасрэдніцкімі і гандлёва-закупачнымі кааператывамі, нягледзячы на тое, што сёння іх дзейнасць зусім законная. Тое ж самае адбываецца, калі чытача інфармуюць аб якой-небудзь правіннасці работніка малога прадпрыемства. Важна не што ўчыніў, а хто. Прыналежнасць да малога бізнесу ўжо ёсць вінаватасць.

На думку дырэктара аднаго з самых прэстыжных выдавецтваў, грандыёзная кампанія па дыскрэдытацыі прадпрымальніцтва пачалася некалькі гадоў таму ў маскоўскіх газетах. Тры сацыяльныя сегменты, якіх больш за ўсё цікавіла паражэнне свабоднага бізнесу, — базарная мафія, дзяржаўны гандаль і чыноўнікі — уклалі дастаткова вялікія сумы ў так званыя "заказныя" артыкулы і стварэнне ўжываемай цяпер большасцю журналістаў негатыўнай знакавай сістэмы.

У заключэнне Леанід Міндлін звярнуўся да беларускіх журналістаў з просьбай не паддавацца ўладзе прывычнага штампа і глыбей вывучаць рыначныя працэсы і прадпрымальніцтва для таго, каб пры фарміраванні грамадскай думкі вярнуць і акрэсліць страчаную мяжу паміж цывілізаваным і незаконным бізнесам.

**Вера ГРАКОВІЧ.**

### "PROCTER AND GAMBLE" НА БЕЛАРУСІ

Буйнейшы вытворца касметычных тавараў, пральных парашкоў і адбельвальнікаў, прадметаў сацыяльна-бытавога прызначэння, медпрэпаратаў упершыню афіцыйна заявіў аб пачатку сваёй працы на рынку Беларусі.

На прэзентацыі фірмы "Procter and Gamble" ў Гандлёва-прамысловай палаце Рэспублікі Беларусь прадстаўнік аддзялення кампаніі ў горадзе Эшбарн (ФРГ), якое ажыццяўляе гандаль з краінамі СНД і Балтыі, Хане Пітэр Хайсен пазнаёміў з дыстрыб'ютэрамі з Мінска, Віцебска, Гомеля, Гродна. Яны будуць распаўсюджваць прадукцыю ў абласцях рэспублікі.

Кампанія імкнецца авалодаць усімі рынкамі СНД, не выключаючы магчымасці і будаўніцтва рэгіянальных прадпрыемстваў па выпуску сваёй прадукцыі, у тым ліку і ў Беларусі. Акрамя таго, кіраўніцтва кампаніі не жадае праводзіць палітыку, у рамках якой прадукцыя рэалізоўвалася б у якіх-небудзь эксклюзіўных магазінах.

Прадстаўнікі кампаніі паабяцалі ўжо праз некалькі месяцаў насыціць сваімі таварамі беларускі рынак.

**Святлана КУЛІКОВА.**

## "ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# "Залатыя моманты" напрыканцы палітычнага лета

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Беларускае палітычнае лета завяршылася ўчора. Сёння і надалей сціплае вераснёўскае сонца пачне ахалоджваць рэшткі ліпеньска-жнівеньскай спёкі, якая ў прамым і пераносным сэнсе пазначыла першыя тыдні прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.*

Па ўсёй верагоднасці, восень стане адметнай парой для новай улады. Фактам гісторыі можна лічыць перадвыбарчыя дэкларацыі, бо жорсткія рэаліі патрабуюць ад палітыкаў дзеянняў, прычым дзеянняў нетрывіяльных. Хаця цяпер працягваецца распрацоўка праграмы па выхаду з крызісу пад эгідай прэзідэнта, літаральна кожны дзень становіцца тым "залатым момантам", упусціць які, значыць, упусціць Жар-птушку ініцыятывы. Відавочнай логіцы адпавядаюць дзеянні А.Лукашэнкі, які некалькі дзён таму сустрэўся з калектывам распрацоўшчыкаў антыкрызіснай праграмы і заявіў, што кожны са 150 спецыялістаў будзе несці персанальную адказнасць за падрыхтаваныя ім палажэнні. Пакуль і прыхільнікі, і апаненты беларускага кіраўніка пагаджаюцца з тым, што Аляксандр Лукашэнка мае крэдыт народнага даверу і адпаведна запас трываласці, ён імкнецца з найбольшай эфектыўнасцю такі крэдыт выкарыстаць. Менавіта гэтым тлумачыцца і ягоны ўдзел у праграме Андрэя Караулава "Момант ісціны" і ўчарашняе выступленне ў прамым эфіры Беларускага тэлебачання.

Варункі жыцця сярэднестатыстычнага выбаршчыка пасля абрання прэзідэнта відавочна не змяніліся (і змяніцца не маглі), але, безумоўна, паралельна з фарміраваннем урадавых і прэзідэнцкіх структур прадпрымаюцца канкрэтныя меры па магчымай сёння стабілізацыі. Аб гэткай канкрэтыцы размаўляў і, згодна з планам тэлесустрэч, будзе яшчэ весці гутарку Лукашэнка. Хто, як не ён, адчувае цяпер цяжар адказнасці за лёс нацыянальнага адраджэння і разумее жаданне людзей з першых вуснаў пачуць словы тлумачэння і абгрунтавання антыкрызісных захадаў. Маскоўскі журналіст вёў дыялог з прэзідэнтам больш як тры з паловай гадзіны (зразумела, эфірны прэс пакінуў свае карэктывы на канчатковым варыянце "Моманту ісціны", абмежаваным праграмнымі рамкамі). Яшчэ большую цікавасць выклікаў прамы эфір для беларускай тэлеаўдыторыі. Дадатковую вагу словам прэзідэнта надае сам час. Напрыканцы палітычнага лета назіралася актывізацыя рознанакіраваных плыняў, у тым ліку і тых, якія супрацьстаялі Аляксандру Рыгоравічу пад час выбарчай кампаніі. Таму вызначэнне прыярытэтных напрамкаў галоўным чынам эканамічнага развіцця выходзіць на першы план. І справа, зрэшты, не ў праграмных параграфах "выратавальнага фаліянта", а ў іх, няхай і выбраным, частковым агучванні чалавекам, ад якога многае залежыць. Нельга скідваць з рахунку таксама адчувальнае павышэнне цэн і тарыфаў, меўшае месца апошнім часам. Бадай, толькі прэзідэнт можа растлумачыць і такую неабходнасць, абазначыўшы перспектыву.

Асноўны і самы важкі фактар поспеху рэфармавання на ўсіх узроўнях — народны давер і ўзаемаразуменне. Вось у чым тая лакальная задача, вырашэнню якой павінны спрыяць публічныя выступленні прадстаўнікоў улады: прэзідэнта, прэм'ера, іншых высокіх "чыноў" у правячай іерархіі. Здаецца, традыцыйнымі становяцца прэс-канферэнцыі Кабінета Міністраў па панядзелках. Такую галоснасць трэба адзначыць, безумоўна, як з'яву прыкметную, асабліва, калі параўноўваць адкрытасць новага ўрада з "чорнай скрынкай" былога Саўміна — ледзь не перманентным маўчаннем кебічаўскіх чыноўнікаў. Вядома, аднымі словамі справе не дапаможаш. Аднак людзям без сумненняў імпануе адкрытая палітыка, хаця вектар галоснасці пры яе правядзенні можа і набліжацца да лініі, памежнай з папулізмам. І, па зноў-такі зразумелых прычынах, партыю "першай скрыпкі" ў камерным ансамблі правіцеляў выконвае прэзідэнт. Мабыць, шчырыя ноты ў голасе, характэрныя для тэлегутарак народнага абранніка і, дарэчы, знаёмыя па "трыбунных" выступленнях Аляксандра Лукашэнкі-дэпутата, дасягнуць сваёй мэты. Хутчэй за ўсё, што так. У народзе шануюцца мроі-надзеі.

## ФЕСТЫВАЛІ

*"Новыя твары" — так называецца міжнародны маладзёжны фестываль, які праходзіць у гарадах рэспублікі. У рамках фестывалю ў Мінску адбыліся карнавальнае шэсце, рок-канцэрт, феерверк.*

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# КДБ імкнецца да адкрытасці, а МУС рэгіструе небывалы ўсплёск злачыннасці

Адбылася чарговая прэс-канферэнцыя па выніках работы Кабінета Міністраў за тыдзень.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір праінфармаваў журналістаў аб выніках паездкі ўрадавай дэлегацыі ў Славакію.

У прэс-канферэнцыі, як і было паабяцана журналістам на мінулым тыдні, прынялі ўдзел кіраўнікі сілавых міністэрстваў. Міністр абароны Анатоль Кастэнка падрабязна расказаў пра далейшае рэфармаванне Узброеных Сіл Беларусі і засяродзіў увагу прысутных на праблемах ваеннага будаўніцтва. Бліжэйшай задачай Міністэрства абароны, як падкрэсліў міністр, з'яўляецца стварэнне ўзброеных сіл, якія здольны надзейна ажыццяўляць абарону Айчыны. Колькасць асабовага саставу ў рамках разумнай дастатковасці да 1995 года будзе даведзена да 90 тысяч чалавек. Для афіцэраў і прапаршчыкаў, якія будуць звольнены ў запас, плануецца адкрыць яшчэ 6 філіялаў Рэспубліканскага цэнтра перападрыхтоўкі і працаўладкавання ў розных рэгіёнах рэспублікі, што дапаможа хутчэйшай адаптацыі запаснікоў да цывільнага жыцця. Сярод іншых задач ваеннага будаўніцтва Анатоль Кастэнка назваў распрацоўку стратэгічнай праграмы ўмацавання інфраструктуры ўзброеных сіл, іх баявога і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння.

Старшыня КДБ Уладзімір Ягораў яшчэ раз падкрэсліў імкненне асабовага саставу службы бяспекі да адкрытасці. Ён паведаміў аб стварэнні ў структуры КДБ двух падраздзяленняў па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай эканамічнай злачыннасцю. Такія ж структуры з'явяцца і ва ўсіх абласных упраўленнях службы бяспекі. Дарэчы, новыя падраздзяленні ствараюцца ў рамках існуючых штатаў. Ён адзначыў, што асабовы састаў будзе дзейнічаць выключна ў рамках Канстытуцыі і заканадаўства Беларусі.

У кароткай інфармацыі міністр унутраных спраў Юрый Захаранка зноў выказаў трывогу з-за росту злачыннасці. Паводле яго слоў, такога ўсплёску крымінальнай злачыннасці не было за ўсю гісторыю рэспублікі. Юрый Захаранка шчыра прызнаўся, што, на жаль, поспехамі тут пакуль не прыходзіцца хваліцца, аднак органы ўнутраных спраў поўныя рашучасці змагацца з парушальнікамі законнасці і правапарадку.

**БЕЛІНФАРМ.**

## Літаратурны каляндар

**Верасень**

**1. Чацвер.**
ДЗЕНЬ МІРУ.
ДЗЕНЬ ВЕДАЎ.
ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ.

**2. Пятніца.**
105 гадоў з дня нараджэння К.І.Шапялевіча (1889—1976), беларускага мовазнаўца і педагога.

**4. Нядзеля.**
135 гадоў з дня нараджэння Б.І.Эпімах-Шыпілы (1859—1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, мовазнаўца і фальклярыста.

**7. Серада.**
75 гадоў з дня нараджэння Алеся Асіпенкі (Аляксандр Харытонавіч) (1919—1994), беларускага пісьменніка.

**8. Чацвер.**
МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ ЖУРНАЛІСТАЎ.
80 гадоў з дня нараджэння Б.А.Кежуна (1914—1984), рускага паэта, перакладчыка і даследчыка беларускай літаратуры.

**20. Аўторак.**
75 гадоў з дня нараджэння (1919) Я.К.Усікава, беларускага літаратуразнаўца і крытыка.

**23. Пятніца.**
70 гадоў з дня нараджэння (1924) А.В.Вольскага (сапр. Вольскі-Зэйдэль), беларускага паэта.

**24. Субота.**
90 гадоў з дня нараджэння М.Я.Пецюкевіча (1904—1983), беларускага і польскага этнографа.

**27. Аўторак.**
СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ТУРЫЗМУ.

**30. Пятніца.**
80 гадоў з дня нараджэння (1914) Д.К.Міцкевіча, стваральніка і першага дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа.

### МУДРАЯ СТАЛАСЦЬ

Здаецца, ён і не мяняецца з гадамі — наш Даніла Канстанцінавіч: самавіты постаццю, паважны рухамі, задуменны і разважлівы. І па-ранейшаму цікаўны да ўсяго, што дзеецца на свеце. Пра што б ні зайшла гаворка — ва ўсім дасведчаны слухач і субяседнік. Для Бацькаўшчыны "бацькаўшчыну" вахоўваць быў закліканы Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч пасля смерці Якуба Коласа. З яго ж, зразумела, удзячнай згоды. Пакінуў службу ў Акадэміі навук, службу перспектыўную. З загадчыка лабараторыі пайшоў на пасаду дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа. Прызначэнне атрымаў у красавіку 1957 года. Звыш дваццаці гадоў кіраваў гэтай святыняй Беларусі (адкрыццё музея адбылося 4 снежня 1959 года), кіраваў дбайна і аўтарытэтна. Цяпер Даніла Канстанцінавіч персанальны пенсіянер, служыць дому Коласа ў якасці старшага навуковага супрацоўніка.

Дасканалы знаўца біяграфіі народнага паэта, ён шчодра задавальняе патрэбы ўсіх цікаўных. Неацэнную паслугу аказаў работнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі пры падрыхтоўцы 12- і 14-томных збораў твораў Якуба Коласа: вытлумачыў шмат якія моманты гісторыі напісання твораў, пракаменціраваў багатую эпісталярную спадчыну песняра.

Ахвотна Даніла Канстанцінавіч сустракаецца з наведвальнікамі музея, бачыцца з народам і "ў адрыве ад вытворчасці" выступае ў навучальных установах, у працоўных калектывах. Слова яго чытаецца ў друку, голас чуецца з блакітнага экрана, па радыё...

**Іван КУРБЕКА.**
**Каляндар "Родны край" 1994 г.**

## ВІЗІТНАЯ КАРТКА

# Чужы сярод сваіх

*Ва ўсім свеце, акрамя моды утылітарнай, "для ўсіх", існуе яшчэ й "мода дзеля моды", мода чыстага мастацтва, розніца паміж якімі прыкладна такая ж, як між тыражаваным нацюрмортам у вашай кухні і жывапісным творам дзе-небудзь у мастацкім музеі ці прэстыжнай галерэі. У Беларусі ёсць першая, але няма другой. Затое сама сабой нарадзілася трэцяя, характэрная спецыфічна для грамадзян былога Саюза — мода натоўпу, што з'явілася з жадання мець усё гэткае ж, як у суседа...*

Не зважаючы ні на якія плыні і тэндэнцыі, вуліца стварае ўласную моду — агульная цяга да уніформы прымушае суайчыннікаў апранацца спачатку ў аднолькавыя каляровыя маечкі з вышыванымі літарамі на грудзях, а крыху пазней усе, бы па нейкаму загаду, напінаюць на сябе зноў аднолькавыя турэцкія "палавікі"...

Менавіта такім чынам была апранута глядацкая публіка першага рэспубліканскага фестывалю маладзёжнай моды "Міла-94", што адбыўся недзе ў красавіку гэтага года. Андрэй Сныткін у ім не ўдзельнічаў — вырашыў спачатку паглядзець. І быў расчараваны. Па-першае, наведвальнікамі, што, як высветлілася, прыйшлі проста смачна паесці пад гэтае відовішча, і самімі конкурснымі работамі, уражанне ад якіх было такое, што "недзе гэта ўжо сустракалася".

Айчыннай модзе яшчэ надта цяжка пазбавіцца ад пэўных стэрэатыпаў, перайсці мяжу да "мастацтва дзеля мастацтва" — і гэта цалкам зразумела. Ствараць такую моду ў эканамічна разбуранай дзяржаве — ледзь ці не абсурдная рызыка. Бо справа гэта — заведама стратная, і пакуль больш надзейна гандляваць "снікерсамі", чым ствараць нейкае там мастацтва...

Тое, што малюе Андрэй, — зусім іншы, паэтычны свет, надзвычай прыгожы і вельмі далёкі ад паўсядзённасці. Ягоныя ідэі з поспехам маглі б канкурыраваць з цікавымі знаходкамі карыфеяў сусветнай "от куцюр". Тое прызнавалі ўсе, каму даводзілася бачыць Андрэевы эскізы, але, між іншым, мадэльеры Беларускага Дома мадэляў проста пацікавіліся: "Навошта ты нам сёмы, калі нас тут ужо шэсць?.." А супрацоўнікі фірмы "Крысціна" пасля працяглых охаў і ўздыхаў захаплення ў рэшце рэшт абвясцілі, што каб былі ягоныя мадэлі прасцейшыя, а сам ён кваліфікаваным закройшчыкам... Карацей, спадара Сныткіна не зразумелі.

Цьеры Мюглеру і П'еру Кардэну было прасцей з самага пачатку. Да кантракта Мюглера з ягоным першым Домам мадэляў не патрабавалася ніякіх кравецкіх курсаў. А Кардэн праславіўся ўжо ў 17 гадоў, калі арганізатары конкурсу, падобнага нашай "Міле", дапамаглі ямуператварыць ягоныя папяровыя ідэі ў нешта не такое эфемернае.

Разлічваць на чыюсьці дапамогу Андрэю вельмі цяжка. Аднаго разу ён вырашыў распачаць "уласную справу" і нават пазычыў на тое ў сябра 20 тысяч "баксаў". А калі пачаў падлічваць кошт неабходнай тэхнікі ды арэнды памяшкання, зразумеў, што памарыць, вядома, можна, але да рэальнасці ўсё гэта не мае ніякага дачынення. Ды і ў каго б знайшлі попыт тыя вытанчаныя мадэлі?

— Калі я быў круп'е ў "Чорным лімоне", часам проста жахаўся, як там апраналіся наведвальнікі,— успамінае хлопец.— Здаецца ж, і грошы ёсць... Прабачце, але гэта вельмі смешна, калі пажылая дама, якую тры дні на лыжах аб'язджаць трэба, імкнецца выглядаць, нібы юная дзяўчынка. Яе ж можна было сапраўднай прыгажуняй зрабіць! Бо касцюмам зусім нескладана схаваць любыя недахопы, а калі яшчэ дадаць маленечкую цікавую дэталь — у любой кампаніі поспех забяспечаны... Я ўпэўнены, што лёгка мог бы тое зрабіць.

Але пакуль яго ідэі разбягаюцца, бы непаслухмяныя дзеці. Знаёмая папрасіла выдумаць для яе шлюбны ўбор, "каб быў не падобны ні на што". А крыху пазней яе сяброўкі кінуліся шыць сабе дакладна такія ж сукенкі, толькі іншага колеру... Спадар Сухоцкі, рэжысёр Беларускага тэлебачання, узяў у Андрэя пэўную колькасць работ з мэтай паказаць іх нейкаму знаёмаму немцу — і вось ужо колькі месяцаў у самым літаральным сэнсе знік...

Засталася яшчэ надзея на гаспадыню магазіна амерыканскага адзення, што размешчаны паблізу кінастудыі "Беларусьфільм". Ад'язджаючы ў Амерыку, яна забрала з сабою пачак Андрэевых эскізаў для мясцовых мадэльераў. І, развітваючыся, пераканана зазначыла: "Працаваць ты будзеш хутчэй за ўсё ў нас або тут, але для нас. Свае наўрад ці падтрымаюць..."

Магчыма, яна мела рацыю. Ці памылялася? Калі нехта з айчынных мецэнатаў яшчэ вагаецца, куды ўкласці грошы, няхай патэлефануе Андрэю па нумары 21-05-53.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

### "Зубраня" збіраецца падрасці

*Двойчы за апошнія дні давялося перажыць горыч расставання з новымі сябрамі дзецям з вядомага лагера "Зубраня", якія адпачывалі ў апошняй летняй змене.*

Першы раз — на Нарачы, што пакінула ў іх назаўсёды лепшыя ўспаміны, другі — на плошчы ля будынка Вярхоўнага Савета Беларусі, Цэнтральнага дома афіцэраў і галоўнага офіса маладзёжных арганізацый рэспублікі ў Мінску. Тут дзеці абменьваліся адрасамі і абяцалі не губляць адзін з адным сувязі.

Хлопчыкі і дзяўчынкі, што сабраліся на дваццаць жнівеньскіх дзён на беразе вядомага беларускага возера з усіх канцоў рэспублікі, у тым ліку і з раёнаў чарнобыльскай бяды, паводле іх уласнага прызнання, выдатна адпачылі ў галоўнай дзіцячай здраўніцы, якая ўсё больш набывае рысы міжнароднага маладзёжнага лагера. Іх гасцямі і таварышамі ў апошняй, перад пачаткам навучальнага года, змене былі равеснікі з блізкага і далёкага замежжа.

А "Зубраня" прадоўжыць аздараўленчую місію і восенню. Згодна з пастановай урада для далейшага развіцця і ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы лагера плануецца выдаткаваць неабходныя сродкі, у тым ліку і з Чарнобыльскага фонду. Дзеці, якія будуць тут адпачываць і адначасова вучыцца, павінны атрымаць у сваё распараджэнне камп'ютэрныя і відэакласы, новыя будынкі, паўнацэннае, высокакаларыйнае харчаванне. Адпаведным міністэрствам і ведамствам даручана забяспечыць рост лагера "Зубраня" па ўсіх параметрах, аж да абнаўлення транспартнага парка лагера і забеспячэння яго гаруча-змазачнымі матэрыяламі, удасканалення медыцынскага абслугоўвання, забеспячэння лекавымі прэпаратамі.

**БЕЛІНФАРМ.**

Кур'ер "ЧЗ"

### Паветра, якім дыхае скаўт

*Рамантыка і вандроўкі — вось тое паветра, якім дыхае сапраўдны скаўт.*

Яшчэ не паспелі зрабіцца ўспамінамі ўражанні ад адпачынку ў чэрвеньскім міжнародным летніку "Робін Гуд", дзе разам з беларускімі "ваўчанятамі" і "разведчыкамі" адпачывалі сябры літаральна з усяго былога Саюза, а таксама з Аўстраліі і Францыі — і вось ужо нашыя скаўты, прыхапіўшы з сабою французаў, выправіліся ў Крым. Там, у маляўнічым месцы з надзвычай прыгожай назвай "Блакітны Заліў" размясціўся яшчэ адзін скаўцкі летнік.

Тры дні таму "разведчыкі", нарэшце, вярнуліся дамоў. Як і належыць, перапоўненыя ўражаннямі і жаданнем расказаць пра ўсё-усё. Бо адпачынак, як і звычайна, атрымаўся вельмі змястоўным. Пазнаёміўшыся з кіеўскімі эколагамі, скаўты вырашылі арганізаваць свой экалагічны летнік — і на працягу колькіх тыдняў дапамагалі сячы сушняк і садзіць дрэвы на месцах былых пажарышчаў, займаліся ачысткай крыніц у гарах. За гэты тэрмін вельмі моцна пасябравалі з крымскімі, расійскімі і башкірскімі скаўтамі, раптам заўважыўшы, што адрозненняў паміж імі няма ніякіх. Тое ж адзначаў і прэзідэнт Саюза скаўтаў Беларусі Ігар Касцевіч пад час сваёй сустрэчы з прэзідэнтам Крыма спадаром Мяшковым. Настальгія па агульнаму сяброўству дала свае вынікі — ужо ў верасні да беларускіх скаўтаў завітаюць кіраўнікі скаўцкай арганізацыі з Аўстраліі, каб наступным летам (на свае Навагоднія святы) запрасіць да сябе на ўсе тры месяцы.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

### У Оршы — педагагічны каледж

*Аршанскае педагагічнае вучылішча атрымала статус каледжа.*

У старэйшай сярэдняй навучальнай установе, якая існуе з 1921 года, штогод навучаецца каля 700 чалавек. Большасць прадметаў тут выкладаецца на беларускай мове.

**Ісак КОГАН.**

